# Рагнеда

Памятай, беларус, што і ты чалавек, які можа сабой гаспадарыць!
Л. Шпакоўскі-Случанін

№ 5 (7)

ЖНІВЕНЬ 1994 ГОДА

Кошт — па дамоўленасці


# Наша двайное свята

Нарэшце ў нашай Рэспубліцы будзе сваё свята пісьменства і друку. Такое рашэнне прыняў Прэзідыум Вярхоўнага Савета яшчэ 25 траўня бягучага года. Гэтае свята будзе адзначацца штогод у першую нядзелю верасня. Мяркуецца, што яно стане агульнанародным сімвалам духоўнага адраджэння Беларусі. Ужо распрацавана канцэпцыя нацыянальнага свята пісьменства і друку. У яе аснову пакладзена ідэя асэнсавання гістарычнага шляху асветніцтва ў Беларусі, павышэння яго ролі і значэння ў духоўным жыцці грамадства.

Цяпер сталіцай народнай урачыстасці стане старажытны Полацк — калыска беларускай дзяржаўнасці і культуры, горад, непарыўна звязаны з імёнамі асветніцы Ефрасінні Полацкай і першадрукара Францішка Скарыны. У далейшым сталіца свята будзе мяняцца.

Сёлетнія святочныя мерапрыемствы, прысвечаныя Дню пісьменства і друку, будуць праводзіцца на працягу тыдня, з 28 жніўня па 4 верасня. Яны пройдуць пад знакам першых урокаў, лекцый, семінараў па тэме «Пісьменства і друк Беларусі — крыніца культуры і духоўнасці народа». У рамках святочнага тыдня адбудзецца і навукова-творчая экспедыцыя «Дарога да святыняў». Яна пройдзе па старажытных цэнтрах беларускай культуры — Навагрудку, Нясвіжу, Тураву, Оршы — да Полацка. Асвеціць гэты няблізкі шлях лампадка са святым агнём ад Гроба Гасподня, які запалены ў 1992 ў Іерусаліме і захоўваецца ў Свята-Духавым кафедральным саборы ў Мінску. Потым лампадка будзе знаходзіцца ў жаночым манастыры каля мошчаў беларускай заступніцы Ефрасінні Полацкай. Завершыцца свята ў Полацку. 4 верасня тут адбудзецца мітынг, на які запрошаны прадстаўнікі беларускай дыяспары з іншых краін свету, а таксама замежныя госці.

Падзея, вядома, радасная і неардынарная. Гэтым пацвярджаецца курс нашай дзяржавы на суверэнітэт, мацуецца нацыянальная годнасць.

Для тых, хто працуе над выпускам «Рагнеды», свята набывае своеасаблівую афарбоўку і сэнс. Наша газета ўпершыню пабачыла свет 19 жніўня 1993 года. Ужо роўна год выпускаецца яна на грамадскіх асновах. Фінансавую падтрымку ў выпуску газеты па-ранейшаму аказвае таварыства з абмежаванай адказнасцю «БелПИТТО» (дырэктар Леанід Ясінаў). Бескарысліва працуе над афармленнем макетаў Віталь Мурылёў, дапамагае фотаздымкамі Феафан Раманоўскі, расказвае пра нашых славутых землякоў Ларыса Бойка.

«Рагнеда» мае грамадска-асветніцкі накірунак. З-за смугі часу паўстаюць перад чытачом з яе старонак лёсы слынных людзей нашай Бацькаўшчыны, некаторыя старонкі гісторыі Беларусі і непасрэдна Салігоршчыны. Словам, газета спрыяе духоўнаму адраджэнню нашай нацыі. Таму свята беларускага пісьменства і друку — двайное свята для тых, хто працуе над зместам і афармленнем газеты.

Мы віншуем з гэтым святам нашых чытачоў, зычым ім плёну і поспехаў ва ўсіх пачынаннях і справах. Спадзяемся на тое, што і надалей мы будзем разам.

Жыве Беларусь!

✦ ПАДАННІ ДАЎНІНЫ СІВОЙ

# Адкуль гэтыя назвы

## Капыль

Даўно гэта было, многа стагоддзяў таму назад. Там, дзе зараз Капыль, стаяў замак багатага князя. Недалёка ад замка цякла рэчка, якая разлівалася шырокім возерам каля княскіх харомаў. А ў князя была адзіная дачка, ды такой прыгажосці, што князь не дазваляў, каб глядзелі на яе простыя людзі. Князёўна жыла ў святліцы, якая знаходзілася ў высокай вежы замка. Толькі адтуль праз акно яна магла пазіраць на навакольны свет, любавацца хараством палёў, лясоў, і рэк. Звалі князёўну Паліна, Поля. Аднойчы летам каля замка з'явіўся малады пастух, які вельмі хораша іграў на дудачцы, якую ён сам зрабіў. Князёўна пачула дзіўную песню і вельмі зацікавілася музыкам і яго ігрою. Тады яна пераапранулася ў сялянскую дзяўчыну, незаўважна ад варты спусцілася з вежы долу і прыбегла на бераг возера, дзе пастух пасвіў свой статак. Тут яна ўбачыла прыгожага хлопца, які, угледзеўшы прыгажуню-дзяўчыну, не мог адарваць вачэй ад яе. Ён адразу пакахаў яе і зайграў так, што ўсё навокал зрабілася нібы зачараваным тым граннем. Коля (так звалі пастуха) дамовіўся з Поляй, што ўначы, як толькі ўзыдзе месяц, яны пойдуць на возера катацца на чоўне.

Князь быў у паходзе, і яны сустракаліся штоноч. Вярнуўшыся з паходу, князь даведаўся аб тых спатканнях. Князёўну закрылі ў вежы. Бацькі меркавалі выдаць яе замуж за багатага прынца. І вось у канцы лета, у цёмную рабінавую ноч, калі шугала навальніца і бушавала возера, пастух падплыў на чоўне да самага замка і на жалейцы падаў голас сваёй каханай. Князёўне ўдалося выбрацца з вежы, і маладыя людзі кінуліся наўцёкі. Князь падняў на ногі ўсю чэлядзь, каб злавіць уцекачоў. Князь убачыў дачку з пастухом на чоўне сярод бурных хваль, калі возера асвяціла бліскавіца. І зноў усё знікла ў непрагляднай цемры. А калі навальніца сціхла і развіднела, на возеры ўжо нікога не было. Возера паглынула ўцекачоў. Тады ў роспачы бацька пракляў і возера, і рэчку, якія ў той жа момант праваліліся ў зямлю, а месца гэтае сталі называць, злучыўшы імёны тапельцаў Колі і Полі, — Ко-Поль, а пазней Капыль, ды так і засталося — Капыль. І сёння Капыль.

## Нясвіж

Нясвіж стаіць ужо каля васьмі вякоў. А адкуль пайшла яго назва, людзі расказваюць так. Як вядома, любімымі заняткамі князёў былі паляванне і розныя там забавы. Навокал княскага замка некалі далёка распасціраліся дрымучыя пушчы ды непраходныя балоты. Аднойчы князь разам са сваёю чэляддзю паляваў на мядзведзяў. Адзін звер быў паранены, але ўцёк. Праз некалькі дзён князь зноў быў на паляванні ў тым баку. Адзін з яго стральцоў знайшоў таго мядзведзя, але ўжо мёртвага.

Князь пад'ехаў да яго, агледзеў ды і кажа:

— Не свеж.

Вось і пачалі тое месца называць Нясвеж, Нясвіж.

# Шлях даўжынёй у чатыры гады

Дзень 11 траўня 1990 года вялікімі літарамі назаўсёды будзе ўпісаны ў гісторыю горада беларускіх шахцёраў Салігорска. Менавіта ён пачаў адлік знакамітай падзеі: у вялікай зале мясцовага Дома Саветаў адбыўся ўстаноўчы сход Таварыства беларускай мовы. Каля двухсот прыхільнікаў нацыянальнага адраджэння прыйшлі сюды, каб падзяліцца думкамі, выказаць свой боль за лёс роднае мовы. Мусіць, гэта неардынарная падзея не адбылася б, каб не была праведзена пэўная падрыхтоўчая праца. Яшчэ ўвосень 1989 года я паспрабавала падняць пытанне пра стварэнне філіі ТБМ імя Ф. Скарыны ў межах горада і раёна. Тады пакуль існаваў райкам партыі. Яго сакратар па ідэалогіі Святлана Пекар вырашыла аказаць неабходную падтрымку і прыняць удзел у працы аргкамітэта па падрыхтоўцы ўстаноўчага сходу. Але неўзабаве пайшла гаворка пра выбары народных дэпутатаў у Вярхоўны і мясцовыя Саветы. Зразумела, што Святлану Пекар апанавалі іншыя клопаты, таму працу аргкамітэта яна не каардынавала.

Такі стан спраў не радаваў. Я вырашыла ўзяць ініцыятыву ў свае рукі. Ператэлефанаваўшы некаторым з тых асобаў, якія нібыта ўвайшлі ў склад аргкамітэта, звязаўшыся і з іншымі, на маю думку, неабыякавымі людзьмі. Сабраліся ў другой палове студзеня ў зале мастацтва гарадской бібліятэкі. Быў створаны новы склад аргкамітэта, узначаліць які было даручана мне. У яго склад увайшлі шахцёры Аляксандр Доўнар, Віктар Бабаед, настаўніца Валянціна Прышчыц, супрацоўніца гарадскога краязнаўчага музея Ларыса Бойка, тагачасная загадчыца гарадскога аддзела культуры Антаніна Сідоранка, журналіст Віталь Мурылёў, Святлана Пекар і інш.

На гэты раз справы скрануліся з месца. Праўда, устаноўчы сход адцягваўся. Часам нават не верылася, што ён адбудзецца, але падрыхтоўка тым не менш праводзілася: былі аддрукаваны аб'явы, пасведчанні ўдзельнікаў устаноўчага сходу. Пра намер стварыць Салігорскую філію ТБМ было паведамлена ў Рэспубліканскую арганізацыю і на першы сход прыхільнікаў нацыянальнага адраджэння Салігоршчыны прыехаў сябра Рэспубліканскай рады пісьменнік Уладзімір Дамашэвіч.

Хацелася, каб гэты дзень быў па-сапраўдному святочным, надоўга запомніўся. Зала была ўпрыгожана партрэтамі беларускіх асветнікаў і адраджэнцаў розных часоў, якія мне даў на час народны дэпутат Мінскага гарсавета Ігар Чарняўскі. Да вялікага стала, за якім размясціўся прэзідыум сходу, быў прымацаваны транспарант, на якім чырвонымі літарамі былі напісаны цудоўныя словы незабыўнага Уладзіміра Караткевіча:

Хто забыў сваіх продкаў — сябе губляе.
Хто забыў сваю мову — усё згубіў.

З уступным словам па даручэнні аргкамітэта выступіла я. Ішла зацікаўленая, хвалюючая размова. Кульмінацыйным момантам сходу было выступленне Лявона Шпакоўскага, які прачытаў шчырыя, пранікнёныя вершы пра родную мову:

Скрозь па краіне і нават у Глуску
Дзеці гавораць толькі па-руску.
Нашы Надзейкі, Ганулькі і Вовы
Сёння не ведаюць роднае мовы.
Мовы, валодаўшай Слуцкам і Прусамі,
Мовы, зрабіўшае нас беларусамі,
Мовы Вялікага княства Літоўскага,
Мовы Скарыны і Каліноўскага,
Мовы, якую ахоўвалі дбала
Лёсік, Гарэцкі, Насовіч, Купала,
Мовы, для чыстай паэзіі годнай,
Мовы прыгожай, спрадвечнай, народнай...
Прыкра і шкода, што ў нашай краіне
Родная мова скора загіне!
Тады мы яшчэ не ведалі, што перад намі

(Заканчэнне на 4-й стар.)

**«Рагнеду» чытаюць не толькі ў Салігорску. Водгукі на яе публікацыі прыходзяць і са сталіцы нашай Рэспублікі. Ды не толькі водгукі. Напрыклад, прафесар, доктар тэхнічных навук Аляксей САЛАМОНАЎ спецыяльна для «Рагнеды» даслаў матэрыялы, у якіх выказвае свае думкі, меркаванні пра нашу мінуўшчыну. Сёння мы знаёмім з меркаваннем Аляксея Андрэевіча пра княгіню Прадславу. У адным з наступных нумароў будзе апублікаваны матэрыял «Постаць Рагнеды Рагвалодаўны павінна ўзняцца над часам», у якім аўтар разважае пра духоўныя каштоўнасці.**

✦ ГІПОТЭЗЫ, ВЕРСІІ, МЕРКАВАННІ



# КНЯГІНЯ ПРАДСЛАВА —роданачальніца беларускай дзяржаўнасці

Кожны хоць колькінебудзь свядомы чалавек заўжды імкнецца як мага больш даведацца пра карані свайго асабістага мінулага, сваёй нацыі ці народа, сярод якога ён апынуўся па волі лёсу. І не толькі таму, што з яго праз час стагоддзяў узрастае сучаснае. Яшчэ больш па прычыне закладзенасці такой цікавасці ў людзях як інстынктыўнай патрэбнасці.

Пільны позірк беларусаў у вытокі сваёй радзімы ўздымае адтуль магутныя і пакутлівыя вобразы тых, хто ствараў і бараніў яе на працягу многіх стагоддзяў, забяспечваў ёй рух і ўздым як працоўнымі намаганнямі, так і ў войнах з суседзямі, якія імкнуліся заняволіць яе, ці разарваць, расцягнуць па кавалках. Але чым далей ад нас тое мінулае, тым менш захавалася звестак пра яго. Таму нават самыя лёсаносныя для Беларусі фігуры бачацца адтуль толькі праз наша ў я ў л е н н е ў смузе стагоддзяў. Імёны іх і справы — даўно ў небыцці і ў перададзеных нам праз генную спадчыну часцінках рысаў. Што тады з чалавечых якасцяў мелі нашы продкі, чым жылі, якія мары накіроўвалі іх у будучыню? Пытанні.., пытанні... Адказы на іх — пад попелам тысячагоддзяў. Бо спачатку ніякіх летапісаў не было — адсутнічала пісьменнасць. Шлях яе ўзнікнення, выкарыстання для зберажэння зафіксаванага праз запісанае па нечым асабістым разуменні— пакутлівы. Таму многае з самага каштоўнага згубіў час.

З таго першапачатковага і самага далёкага, што захавалася аб найбольш важкіх асобах беларускай спадчыны, відаць (хоць і ў вельмі схематычным, але ўжо акрэсленым стане) жаночае імя Прадслава. Яно значыцца ў мірным Царградскім дагаворы Кіеўскага князя Ігара Рурыкавіча з Візантыяй, пераможанай у вайне 941—944 гадоў. У подпісах пад тэкстам гэтага дагавора спачатку пастаўлена імя самога Ігара, потым — бліжэйшых членаў ягонай сям'і. Апошняй запісана невядомая Прадслава як паўнапраўны, самастойны і адказны прадстаўнік іншага княства, якое ўдзельнічала ў вайне на баку Кіева. Уважлівае супастаўленне вядомых з'яў і абставін таго часу дае магчымасць вучоным лічыць, што ў паходзе з Кіеўскім князем Ігарам Рурыкавічам удзельнічаў са сваёй **самастойна - дзяржаўнай дружынай** у якасці саюзніка Полацкі князь. На час перамогі ён мог загінуць ці проста памерці. Таму і імя яго не захавалася. Але ўклад у перамогу Полацкай дружыны быў, відаць, вельмі важкім. Па гэтай прычыне для прызнання сапраўднасці дагавора патрабаваўся подпіс пад ім першай на той час кіруючай дзяржаўнай асобы з боку Полацка. Адсюль вынікае, што Прадслава замяніла свайго мужа ў якасці прадстаўніка самастойнай, а не падначаленай, Беларускай дзяржавы. Раней такое прызнанне не адзначалася.

Гістарычная логіка кажа, што такое не магло здарыцца выпадкова. Яно — вынік разумова - ўплывовага ўдзелу Прадславы Полацкай (так яе называюць гісторыкі) у вырашэнні палітычных, грамадскіх і ваенных спраў свайго мужа. Магчыма і яе непасрэдная прысутнасць у тым паходзе супраць Візантыі.

Адзначанае дае падставы сцвярджаць наступнае: Прадслава Полацкая — першая з вядомых усходнеславянскіх жанчын - кіраўнікоў. З яе пачынаецца гістарычна вядомае існаванне Беларусі як дзяржавы. Можна таксама ўяўляць Прадславу, як прыклад дзяржаўнага кіраўніка для кіяўлян. Бо калі перад імі ў 946 годзе (праз год пасля яе афіцыйнага ўступлення ва ўладу) узнікла неабходнасць выбіраць сабе ўладара, яны назвалі жонку Ігара Рурыкавіча Вольгу. І паколькі (па абгрунтаванай думцы) сама Вольга паходзіла з наўгародскіх крывічоў, то генны кліч продкаў і павага да дзеянняў Прадславы паклікалі яе ў цяжкае і далёкае падарожжа на поўнач. У час яго войскі кіяўлян перамаглі яцвягаў і печанегаў. І спынілася Вольга на адпачынак у зліцці рэк Заходняй Дзвіны і Віцьбы.

Гісторыкі Б. Рыбакоў і Л. Аляксееў лічаць, што адбылося тое ў 947 годзе, калі (у адпаведнасці з «Повестью временных лет») Вольга наведвалася ў паўночным напрамку, каб паставіць пагосты — месцы збору даніны — на рэках Мсце і Лузе, што на Наваградчыне.

Выбранае месца так спадабалася Вользе, што яна на ім адразу ж заснавала драўляны замак, у якім правяла два гады і які перарос потым у горад Віцебск.

У Віцебскім летапісе аб гэтым запісана так: «У лето 974 Ольга, разбив ятвягов и печенегов, переправилась через реку Двину, заночевала с войском и, облюбовавши гору, заложила деревянный замок, назвала от реки Витьбы Витебском, выстроила каменную церковь в Верхнем замке Святого Михаила, а в Нижнем — Благовещения. Два года прожив, уехала в Киев». («Витебск, Энциклопедический справочник», Мінск, 1988 г., стар. 13). Але калі ўлічваць, што Вольга памерла ў 969 годзе, то час яе наведвання сюды сапраўды трэба аднесці на 947 год.

Той жа кліч продкаў і адпаведная цікавасць не маглі не звесці Вольгу з роднакроўнай па зыходным паходжанні Прадславай Полацкай. Знакаміты беларускі гісторык М. Ермаловіч лічыць, што такія сяброўскія сустрэчы былі. Толькі, на нашу думку, верагодней за ўсё — да пачатку закладкі першага бервяна ў падмурак Віцебска. Ёсць падстава лічыць, што і месца Віцебску яны выбіралі разам, каб Вользе было дзе спыніцца і адпачыць пры наступных падарожжах у гэтыя мясціны. І каб забяспечыць добрую і простую сувязь праз Заходнюю Дзвіну з Полацкам, М. Ермаловіч не без падстаў мяркуе, што ў Прадславы нарадзіліся і ўзняліся да дзяржаўных вышынь два сыны: Рагвалод і Тур. Першы стаў князем у Полацку. Другі заснаваў (з дапамогай Рагвалода) горад Тураў — сталіцу Турава-Пінскага княства.

Ёсць, праўда, і іншая думка адносна паходжання Рагвалода. Быццам бы ён не мясцовага паходжання, а нашчадак «нармана-варажскіх» князёў, якія з'явіліся ў Полацку ў канцы IX стагоддзя «аднадчасова з тымі, якія прыйшлі ў Ноўгарад». «Толькі, калі апошнія прыйшлі з поўначы, продкі Рагвалода з'явіліся на Русь па Заходняй Дзвіне і тут абселіся». Аднак гістарычная логіка не можа з гэтым сцвярджэннем згадзіцца. Бо прышлыя, няпрошаныя людзі, якія не ведаюць ні мясцовай мовы, ні абставін жыцця, ніякіх перакладчыкаў, не могуць так хутка вырасці ў вачах карэнных жыхароў, каб яны іх абралі аж князямі. Інакш жа тады не магло быць. Таму што ў Полацку «княжацкі пасад не сілай забіралі, але садзіліся на яго па радавому праву» (В. Ю. Ластоўскі. «Кароткая гісторыя Беларусі». Вільня,, 1910 г., стар. 8).

У. М. Ігнатоўскі таксама не згаджаецца са сцвярджэннем аб прышласці ў недалёкім мінулым бацькоў Рагвалода аднекуль па Заходняй Дзвіне. Ён піша: «Але магчыма думаць, што Рагвалод быў патомкам тых мясцовых полацкіх князёў, якія раней былі ў Полацку. Гэта пацвярджаецца чыста славянскім імем самога Рагвалода і яго дачкі Рагнеды». («Кароткі нарыс гісторыі Беларусі». Мінск, 1992 г., стар. 38). Ад сябе дабавім, што, як паказана вышэй, і маці яго была славянкай, а не нарманкай. І, відаць, па прычыне той жа блізкай роднасці Рагнеда, дачка Рагвалода, дала імя Прадслава адной са сваіх дачок.

Такім перад сучаснікамі паўстае вобраз Прадславы Полацкай — Маці Вялікага Роду Полацкіх князёў, ад якіх, як гістарычна зафіксавана, пачынаецца Беларусь як дзяржава. Такой яна бачыцца праз далечыню больш за тысячагоддзе, праз бясконцыя, заблытаныя гістарычныя падзеі і наслаенні. Таму нашы ўяўленні аб ёй дэталёва будуць у чымсьці, нават значным, не супадаць з напісаным іншымі аўтарамі, а ўсё разам — з дэталямі сапраўдных падзей таго часу. Бо сведак няма; штосьці, кімсьці і калісьці напісанае пераходзіць без аналізаў гістарычнай логікі з адной «працы» ў такую ж самую, але пад іншым аўтарствам і, прытым, часта — без ссылак. Са свайго ж боку, абапіраючыся на разумовы аналіз таго нямногага, што вядома аб Прадславе і яе часе, мы можам сказаць наступнае.

Пры ўсёй таямнічасці вобраз Прадславы Полацкай будзе заўжды ўзвышацца над намі ў арэоле Вялікасці, Мужнасці, дзяржаўнай Мудрасці, чалавечай Прыгажосці і Павагі з вялікіх літар. Таму што менавіта яна перадала тое лепшае, важнае, сардэчнае ў род Рагвалодавічаў - Ізяславічаў у Полацкім княстве і ў род Яраслававічаў у Кіеўскім княстве, а таксама ў княскія пакаленні іншых еўрапейскіх краін, якога так не хапае зараз. І якое павінна падняцца ў людзях у імя ўратавання Чалавецтва!

✦ ЗВЯРНІЦЕ ЎВАГУ!

## Тых газет свінні не чыталі...

Цікавыя факты падае газета «Літаратура і мастацтва» ў нумары за 19 жніўня бягучага года. Як вынікае з крытычнага артыкула Валерыя Герасімава «Імперыя спецсхову», «заснаваная бальшавікамі 14 снежня 1921 года імперыя спецсхову (Галоўліта) — гэта апафеоз цэнзуры, абмежавання і ўціску кніжнай прадукцыі, якія існавалі да таго часу ў сусветнай практыцы. Спецсхоў стаў сапраўдай «ЧК выдавецкай і бібліяграфічнай справы», крывавым кніжным мяснікам, пад сякерай якога аказаліся лепшыя дасягненні думкі беларускай нацыі».

Прыводзіць аўтар і вельмі цікавы факт, які тычыцца лёсу перыёдыкі: «Калі выдадзены ў 1927 годзе «Летапіс. Ч. IV» утрымліваў 141 назву часопісаў і газет за 1917—1926 гады (за межамі БССР і ў часы акупацыі), то ў паказніку «Беларускі перыядычны друк. 1917—1927» (Менск, 1929) распісаны толькі два выданні часоў акупацыі: менскія «Вольная Беларусь» (рэд. Я. Лёсік) і «Рунь беларускае літаратуры і мастацтва» (рэд. Я. Луцэвіч). Астатняе — бээсэсэраўская перыёдыка. У выпуску за 1933 год знойдзеце, напрыклад, наступныя газеты: «За бальшавіцкія тэмпы свінагадоўлі» (Орша), «За бальшавіцкую свінагадоўлю» (Барысаў), «За сацыялістычную свінагадоўлю» (Полацкі р-н, п/а «Банонь»), «За ўзорную свінагадоўлю» (Полацк), «На фронце сацыялістычнай свінагадоўлі» (Менск). З нагоды трэба тут сказаць, што бальшавіцкія свінні краіну так і не накармілі, бо, як, вядома, у тым жа трыццаць трэцім разыграўся ў СССР страшэнны голад».

Каментарыі тут, як кажуць, лішнія. Хочацца адзначыць адно: абсурдныя назвы тагачасных бээсэсэраўскіх выданняў яшчэ раз яскрава сведчаць, у якой краіне мы з вамі жылі і хто намі кіраваў.

